УДК 808.26 (09)
ББК 81.411. 3 – 0
Г 51

*Складальнік*: кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства УА “ВДУ імя П.М. Машэрава” ***Дзядова А.С.***

*Рэцэнзент*: кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства УА “ВДУ імя П.М. Машэрава” ***Бондал І.В.***

У вучэбна-метадычным дапаможніку, прызначаным для студэнтаў філалагічных факультэтаў, распрацаваны змест практычных заняткаў, прыведзены пытанні і заданні, асноўныя паняцці і спісы рэкамендаванай літаратуры па тэмах. Сістэма практычных заняткаў арыентуе студэнтаў на ўсебаковае вывучэнне матэрыялу. Прадугледжана выкананне заданняў рознага характару. Асноўная ўвага скіравана на комплексны аналіз мовы літаратурна-пісьмовых крыніц, розных па часе, месцы ўзнікнення і жанравай характарыстыцы.

Практыкум можа быць выкарыстаны пры правядзенні спецкурсаў і спецсемінараў па гісторыі беларускай мовы.

**УДК 808.26 (09)**
**ББК 81.411. 3 – 0**
**Г 51**

У апошнія дзесяцігоддзі ў беларускай лінгвістыцы прыкметна абудзілася цікавасць да пытанняў гісторыі беларускай літаратурнай мовы, бо “мова – гэта гістарычна цэласны арганізм, і ацаніць сучасны стан, патэнцыі развіцця нацыянальнага слова, ... будаваць моўную палітыку немагчыма без уліку старажытнага перыяду яе эвалюцыі”.[1]

У вучэбна-метадычным дапаможніку “Гісторыя беларускай літаратурнай мовы: Практыкум” падрабязна распрацаваны змест практычных заняткаў па дзесяці асноўных тэмах:

1. Уводзіны.
2. Літаратурная мова ўсходніх славян XI – пачатку XIV стст.
3. Старабеларуская літаратурная мова XIV – XVIII стст.
4. Канцылярска-юрыдычнае пісьменства XIV – XVII стст. Мова дзелавых помнікаў.
5. Царкоўнаславянская мова на Беларусі ў XIV – XVIII стст.
6. Мова літаратурна-мастацкіх твораў XIV – XVIII стст.
7. Новая беларуская літаратурная мова.
8. Беларуская літаратурная мова ў пачатку XX ст.
9. Асаблівасці функцыянавання беларускай літаратурнай мовы ў 20-30-я гады XX ст.
10. Беларуская літаратурная мова на сучасным этапе яе развіцця.

Па кожнай тэме дадзены пытанні і заданні, асноўныя паняцці, якія павінны быць асэнсаваны і засвоены студэнтамі, прыведзены спісы асноўнай і дадатковай літаратуры. Прапанаваная сістэма практычных заданняў, асноўная ўвага ў якіх звернута на комплексны аналіз мовы помнікаў, розных па жанравай прыналежнасці, часе і месцы ўзнікнення, арыентуе студэнтаў на ўсебаковае вывучэнне матэрыялу па гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Прадугледжанна таксама і выкананне заданняў на параўнальны аналіз моўных асаблівасцей дзелавых, канфесійных і мастацкіх літаратурна-пісьмовых крыніц той ці іншай эпохі. Большасць прыведзеных для аналізу старажытнарускіх, старабеларускіх і новабеларускіх тэкстаў даволі паказальныя ў моўных адносінах і адлюстроўваюць асноўныя арфаграфічныя, лексічныя і граматычныя рысы беларускай літаратурнай мовы на пэўным этапе яе развіцця. Тэкставы матэрыял узяты са старажытных выданняў, карыстанне якімі, на жаль, сёння абмежаванае і не заўсёды магчымае. У большасці выпадкаў дадзена кароткая характарыстыка таго ці іншага помніка пісьменнасці, звесткі пра яго аўтара, час напісання і месцазнаходжанне сёння. Па некаторых тэмах студэнтам прапанавана напісанне рэфератаў з указаннем неабходных літаратурных крыніц, што, несумненна, будзе спрыяць іх навуковаму пошуку і арганізацыі самастойнай працы.

---

[1] Старабеларускія лексіконы. Мн., 1992. С. 150.

## Тэма 1. УВОДЗІНЫ

**Пытанні**

1. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы як асобная лінгвістычная дысцыпліна. Прадмет і задачы курса, сувязь з іншымі лінгвістычнымі дысцыплінамі.

2. Паняцце “літаратурная мова”, гістарычная зменлівасць яго зместу, суадносіны з іншымі паняццямі: “нацыянальная мова”, “дыялектная мова”, “пісьмовая мова”, “мова мастацкай літаратуры”.

3. Гістарычны характар літаратурна-моўнай нормы. Праблема кадыфікацыі нормаў. Стылістычная сістэма беларускай мовы ў гістарычным аспекце.

4. Пытанне пра перыядызацыю гісторыі беларускай літаратурнай мовы.

5. Навуковая распрацоўка пытанняў гісторыі беларускай літаратурнай мовы ў айчынным мовазнаўстве.

**Асноўныя паняцці**: *гісторыя мовы, дыялектная мова, моўная норма, перыядызацыя, стыль.*

******Падрыхтуйце* ***рэферат*** *на тэму: “Я.Ф. Карскі як вучоны – славіст, заснавальнік гісторыі беларускай мовы”.*

### Літаратура


1. Булахаў М.Г. Карскі Яўхім Фёдаравіч // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 255-257.

2. Булахов М.Г. Евфимий Федорович Карский: Жизнь, научная и общественная деятельность. Мн., 1981.

3. Карский Е.Ф. Белорусы. Язык белорусского народа. Вып.1. М., 1955; вып. 2-3. М., 1956.

4. Карскі Я. Беларусы. Мінск, 2001.

5. Плыгаўка Л. Вялікі вучоны – патрыёт зямлі беларускай // Беларуская мова і літаратура ў школе. 1991. № 1. С. 12-19.

6. Шакун Л.М. Гісторыя беларускага мовазнаўства. Мн., 1995. С. 91-112.


**Заданне 1**

*Прачытайце ўрыўкі з розных выданняў паэмы Якуба Коласа “Новая зямля” (гл.: Красней В.П., Шакун Л.М. Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы, с. 169-171) і параўнайце іх мову. Урывак I узяты з першапублікацыі ў газеце “Наша ніва”, 1912, № 28-29; урывак II – з перавыдання 1927 г.; урывак III – з выдання: Колас Якуб. Зб. твораў: У 14-ці т. Мінск, 1974, т.6). Вызначце ў тэксце двух першых урыўкаў напісанні, якія*

*не адпавядаюць арфаграфічным, граматычным і лексічным нормам сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Чым абумоўлены змены ў апошнім выданні? На аснове параўнальнага аналізу мовы ўрыўкаў зрабіце вывад пра гістарычны характар моўнай нормы.*

**Заданне 2**

*Прачытайце тэкст, змешчаны ў газеце “Наша ніва”(1906, № 1). Запішыце яго ў адпаведнасці з арфаграфічнымі, граматычнымі, лексічнымі нормамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Пракаменціруйце свой запіс, вызначыўшы змены ў характарыстыцы моўных нормаў.*

## ЛИСТ ДА РЭДАКЦИИ

Даўно ўжо мучыць мяне думка аб нашай роднай мови. Народ мае сваю мову, гаворыць ў ей, не ўстыдаецца яе, а сын гэтаго народу, як выйдзе ў людзи, ўжо гаворыць йначэй з гэтым самым народам, каторы яго выгадаваў, на зямлицы катораго ён вырас и сынам катораго ён личыцца. Чаму гэтак у нас зрабилася, што ужо так многа интэлигенцыи выйшло з народу, и ўся яна выраклася сваей роднай мовы? Аддаюць бацьки сваго сынка ў горад да вучэння, чакаюць яго на сьвята да хаты, а ён, як прыедзе, дык загаворыць да их ужо так, што яны, цёмные, невучоные, мала зразумеюць, што ён им кажэ.

Сынок гэты яшчэ невялики, алеж ён ўжо ўстыдаецца свае роднай мовы. У горадзи ни миж таварышчами, ни миж сваими вучыцелями ён ня чуў такой мовы. А як падчас и учуе ад каго, учуе, як з яе сьмяюцца, як дражняць у ей вясковую бабу, ён и падумае, што дапраўды, яго мова такая брыдкая, што ў ёй неварта гаварыць. Адвыкне гаварыць у роднай мови, а потым и сам насьмешки строиць з яе ! Пяройдзе ешчэ кольки лет, скончыць вучэньне сынок; ужо ён паразумнеў; ён ўжо и не ўстыдаўся бы, можэ, гаварыць у роднай мови, алеж ён ужо так адвык ад яе, што яму цяжка гаварыць … Циж гэта не пакута: цяжка гаварыць у сваей роднай мови ! Каб таму было цяжка дыхаць, хто гэта зрабиў ! И гэты самы сын народа, кали ён спрыяе народнаму гору, кали ён хочэ жыць жыцьцем народа, ён павинен изноў вучыцца сваей роднай мовы, каб магчы несци сьвет навуки ў родные цёмные куты, бо тольки той сьвет сьвециць найясьней, каторы даходзиць да народа цераз яго родную мову.

Прашу таварышаў – вучыцелёў, каторым здарыцца прачытаць гэтые словы, выказаць свае думки цераз «Нашу Ниву» аб гэтым.

Вучыцель з Гродзеншчыны.

**Літаратура**

***Асноўная :***

1. Шакун Л.М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2-е выд. Мн., 1984. С. 3-31.
2. Шакун Л.М. Аб перыядызацыі гісторыі беларускай літаратурнай мовы // Жывая спадчына. Мн., 1992. С. 97-106.
3. Шакун Л.М. Гісторыя беларускага мовазнаўства. Мн., 1995. С. 251-256.
4. Шакун Л.М. Карані роднай мовы. Мн., 2001. С. 52-55, 56-62, 94-98, 116-122, 164-171.

***Дадатковая :***

1. Глебка П.Ф. Нататкі пра беларускую літаратурную мову // Глебка П.Ф. Пытанні гісторыі, філалогіі, мастацтва. Мн., 1975. С. 59-66.
2. Филин Ф.П. Истоки и судьбы русского литературного языка. М., 1981.

## Тэма 2. ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА ЎСХОДНІХ СЛАВЯН XI – ПАЧАТКУ XIV стст.

**Пытанні**

1. Пытанне пра ўзнікненне пісьменнасці ва ўсходніх славян.
2. Пытанне пра паходжанне літаратурнай мовы ўсходніх славян (тэорыі А.А. Шахматава, С.П. Абнорскага, В.У. Вінаградава, Ф.П. Філіна).
3. Стылістычныя разнавіднасці літаратурнай мовы ўсходніх славян :
   а) кніжнаславянскі тып (стыль);
   б) народна-літаратурны тып (стыль);
   в) дзелавы тып (стыль).
4. Старажытнарускія, стараславянскія і мясцовыя (дыялектныя) асаблівасці мовы помнікаў XI – XIII стст.
5. Пісьменнасць на тэрыторыі Беларусі ў XI – XIII стст.

**Асноўныя паняцці**: *дапісьмовая пара, дзелавы, кніжнаславянскі, народна-літаратурны тып, пісьмовая пара, старажытнаруская, стараславянская (царкоўнаславянская), усходнеславянская мова.*

**Заданне 1**

*Наступныя словы размяркуйце на дзве групы: 1 – старажытнаруская лексіка; 2 – стараславянская лексіка. У дужках укажыце фанетычныя і словаўтваральныя прыкметы стараславянізмаў. Вызначце семантыка-стылістычныя асаблівасці лексем першай і другой груп.*

Благодарение, благославити, вариво, веревка, вечеряти, вылити, гай, долонь, единый, животворящий, жьзлъ, игуменъ, кляча, кормитель, крестъ, крижъ, ланита, милосердный, насущный, ноговици, оденье, орати, осужде-

ние, прахъ, прежде, пушька, родити, рубити, свещенникъ, створитель, стягъ, сънедати, терпение, урожай, холопъ, храмъ, церковь, чело, черевикъ, шьвьць.

**Заданне 2**

Адным з лепшых літаратурных помнікаў старажытнай Русі XII ст. з'яўляецца "Слова пра паход Ігаравы". Твор прысвечаны апісанню няўдалага пахода ноўгарад-северскага князя Ігара, яго брата Усевалада, сына Уладзіміра і пляменніка Святаслава на полаўцаў у 1185 годзе. "Слова пра паход Ігаравы" вядома сёння ў адзіным спісе, які быў знойдзены ў пачатку 90-х гадоў XVIII ст. збіральнікам старажытнасцей графам А.І. Мусіным-Пушкіным сярод рукапісаў, што захоўваліся ў Яраслаўлі. Гістарычны зборнік, у якім змяшчалася паэма, быў, як мяркуюць даследчыкі, пскоўскага ці наўгародскага паходжання і датаваўся XVI ст. На жаль, рукапіс згарэў у час пажару 1812 года ў Маскве.

Сёння вядомы некалькі перакладаў гэтага выдатнага твора славянскай паэзіі на беларускую мову (пераклады М. Багдановіча, Я. Купалы, М. Гарэцкага, Р. Барадуліна). Адной з найбольш паэтычных і эмацыянальных мясцін у "Слове…" з'яўляецца плач Яраслаўны. Ніжэйпрыведзены першы ўрывак узяты з арыгінальнага тэксту паэмы, другі – з перакладу Р. Барадуліна (гл.: Слова пра паход Ігаравы. Мінск, 1985. С. 20-36, 132-148).

*Прааналізуйце мову першага ўрыўка, вызначыўшы ў ім усходнеславянскія і кніжнаславянскія моўныя асаблівасці на фанетычным, марфалагічным і сінтаксічным узроўнях. Адзначце вобразна-выяўленчыя сродкі (эпітэты, параўнанні, метафары і інш.), элементы вусна-паэтычнай творчасці. Ахарактарызуйце лексічнае багацце помніка, параўнаўшы арыгінальны тэкст з тэкстам перакладу Р. Барадуліна, прасачыце лёс асобных лексем у працэсе моўнай эвалюцыі.*

1. На Дунаи Ярославнынъ гласъ ся слышитъ, зегзицею незнаема рано кычеть: "Полечю, – рече, – зегзицею по Дунаеви, омочю бебрянъ рукавъ въ Каялъ рѣцѣ, утру князю кровавыя его раны на жестоцѣмъ его тѣлѣ".

Ярославна рано плачетъ въ Путивлѣ на забралѣ, аркучи: "О вѣтрѣ, вѣтрило! Чему, господине, насильно вѣеши? Чему мычеши хиновьскыя стрѣлкы на своею нетрудною крилцю на моея лады вои? Мало ли ти бяшеть горѣ подъ облакы вѣяти, лелѣючи корабли на синѣ морѣ? Чему, господине, мое веселие по ковылию развѣя? "

Ярославна рано плачеть Путивлю городу на заборолѣ, аркучи: "О Днепре Словутицю! Ты пробилъ еси каменныя горы сквозѣ землю Половецкую. Ты лелѣялъ еси на себѣ Святославли носады до плъку Кобякова. Възлелѣй, господине, мою ладу къ мнѣ, а быхъ не слала къ нему слезъ на море рано".

Ярославна рано плачетъ въ Путивлѣ на забралѣ, аркучи: "Свѣтлое и тресвѣтлое слънце! Всѣмъ тепло и красно еси: чему, господине, простре

горячюю свою лучю на ладъ вои? Въ полъ безводнъ жаждею имъ лучи съпряже, тугою имъ тули затче? ”

2. На Дунаі чуцен голас Яраслаўны, самотнай чайкаю кігіча рана: “Палячу, – кажа, – чайкаю па Дунаі, абмачу белшаўковы рукаў у Каяле, абатру князю крывавыя яго раны на целе яго крамяным”.

Яраслаўна рана плача ў Пуціўлі на забрале, прыгаворваючы: “О ветру, вятрыла! Чаму, валадару, вееш проці? Чаму імкнеш палавецкія стрэлы згубныя на сваіх лёгкіх крылах на воінаў майго любага? Ці ж табе пад аблокамі не стала прасторы, караблі люляючы на сінім моры? Чаму, валадару, весялосць маю па кавылю развеяў?”

Яраслаўна рана плача ў Пуціўлі на забрале, прыгаворваючы: “О Днепра Славуцічу! Ты прабіў каменныя горы праз зямлю Палавецкую. Ты люляў на сабе насады Святаслававы да Кабяковага стану. Дык прылюляй, валадару, да мяне мой лёс, каб не слала я да яго слёз на мора рана”.

Яраслаўна рана плача ў Пуціўлі на забрале, прыгаворваючы: “Светлае і трысветлае сонца! Усім ты цёплае і яснае: чаму, валадару, паслала свае гарачыя промні на воінаў любага? У полі бязводным спёкай ім лукі сцягнула, бядою ім калчаны затнула?”

**Заданне 3**

Самым раннім з вядомых летапісаў старажытнай Русі з’яўляецца “Повесть временных лет”, якая была складзена, як мяркуюць, манахам Кіева-Пячэрскага манастыра Нестарам у пачатку XII ст. Помнік дайшоў да нас у некалькіх пазнейшых спісах, найбольш старажытны з якіх змешчаны ў Лаўрэнцьеўскім летапісе (перапісаны манахам Лаўрэнціем у 1377 г.). Рукапіс знаходзіцца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М.Я. Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу. Летапіс па гэтым спісе быў выдадзены Археаграфічнай камісіяй (“Полное собрание русских летописей», т. 1, СПб., 1846; 2-е выд., 1872; 3-е выд., 1897). Помнік выдадзены і фотатыпічным спосабам (“Повесть временных лет по Лаврентьевскому списку”, СПб., 1872). Прыведзены для аналізу ўрывак падаецца па гэтым выданні. (гл.: Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы (1961, ч. 1, с. 22-23).

*Ахарактарызуйце мову ўрыўка з пункту гледжання адносін да жывой гаворкі ўсходніх славян і стараславянскай мовы (вызначце фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці, пэўныя тэматычныя групы лексікі). Дакажыце, што ўрывак адносіцца да летапіснага жанру.*

во мнозьхъ же врем. ньх сьли суть словьни по дунаеви гдь есть ныне оугорьска земл . и болгарьска тьхъ словьнъ разидошас по земль. и прозвашас имены своими. гдь сьдше на которомъ мьсть . ко пришедше сь доша. на рьць им немъ марава. и прозвашас морава а друзии чеси нарекоша. а се ти же словьни хровате бьлии и серебь и хорутане волхомъ бо нашедшемъ на словьни на дунаиски . сьдшемъ в них и насил щемъ имъ словьни же ви. пришедше сьдоша на висль. и

прозвашас л хове а тьхъ л ховъ. прозвашас пол не л хове друзии лутичи. ини мазовшане ини помор не. тако же и ти словьне пришедше и сьдоша по дньпру. и нарекошас пол не а друзии древл не зане сьдоша в льсьх друзии сьдоша межю припетью и двиною. и нарекошас дреговичи рьчьки ради же втечеть въ двину. им немъ полота. се прозвашас полочане. словьни же сьдоша коло

езера илмер. прозвашас своимъ им немъ и сдьлаша градъ. и нарекоша и новъгородъ а друзии сьдоша по деснь. и по сьль по суль и нарекоша сьверъ. тако разидес словьньскии зыкъ тьм же и грамота прозвас словьньска. пол номъ же жившимъ собь по горамъ симъ бь путь изъ вар гъ въ греки.

**Заданне 4**

Арыгінальным юрыдычным помнікам старажытнарускай пісьменнасці XI ст. з'яўляецца «Руская праўда» – першы афіцыйны звод законаў Кіеўскай Русі, складзены Яраславам Мудрым і яго сынамі. Вядомымі з'яўляюцца 110 спісаў гэтага дзелавога дакумента, якія захаваліся ў летапісах і зборніках XIII – XIV стст. Урывак для аналізу прыведзены па выданні: Русская правда по древнейшему списку: Введение, текст, снимки, объяснения, указатели авторов и словарного состава. – Л., 1930.

*Вызначце фанетычныя, лексічныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці мовы ўрыўка. Дакажыце, што дадзены тэкст уяўляе сабой узор дзелавой пісьменнасці XI ст.*

О убииствь. Аже кто убиеть княжя мужа. въ разбои. а головника не ищють то вирьвную платити. въ чьеи же вьрви голова лежить. то 80 гривенъ паки людинъ. то сорокъ гривенъ. Которая ли вьрвь. начнеть платити дикую виру. колико льт заплатять ту виру. занеже безъ головника имъ платити. будеть ли головникъ. ихъ въ вьрви. то зане к нимъ прикладываеть. того же дьля имъ помогати головнику. любо си дикую виру. нъ сплатити имъ в обчі. 40 гривенъ. а головничьство. а то самому головнику. а въ 40 гривенъ ему заплатити. из дружины свою часть. нъ оже будеть убилъ. или въ свадь. или въ пиру явлено. тъ тако ему платіти по вьрвинынь. иже ся прикладываеть вирою.

*вира* – грашовы штраф за забойства
*вьрвиныня*—плата ад абшчыны
*вьрвь* – абшчына
*в обчі* – разам, сумесна
*головничьство* – плата, якую забойца выплачваў родным забітага
*голова* – забіты
*головникъ* – забойца
*дикая вира* – грашовы штраф за забойства, які выплачваўся абшчынай
*дружина* – абшчына
*зане (занеже)* – бо, таму што
*людинъ* – просты чалавек
*паки* – калі
*прикладывати* – даваць частку, долю
*свада* – сварка, спрэчка, разлад

**Заданне 5**

Як вядома, асноўнымі цэнтрамі пісьмовай культуры старажытнай Русі з’яўляліся Кіеў і Ноўгарад. Аднак пісьменнасць была шырока распаўсюджана і ў гарадах на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Да нас дайшлі некалькі старажытных рукапісных кніг Х – ХІ стст., тэрытарыяльна звязаных з землямі Беларусі, а таксама “Турава-пінскі летапіс” (пачаты ў 1021 годзе), “Жыціе Ефрасінні Полацкай” (ХІІ ст.), “Полацкі летапіс” (ХІІ ст.), “Псалтыр” (1296 г.), “Аршанскае евангелле” (ХІУ ст.) і інш. У гэты час на тэрыторыі Беларусі была шырока распаўсюджана так званая бытавая пісьменнасць, пра што сведчаць помнікі матэрыяльнай культуры ( крыж Ефрасінні Полацкай, зроблены па яе загадзе полацкім майстрам Лазарам Богшам у 1161 годзе, берасцяныя граматы, гліняны посуд і інш.).

І. *Прачытайце ўрывак з “Надпісу на крыжы Ефрасінні Полацкай” (тэкст прыводзіцца па выданні : Срезневский И. Древние памятники русского письма и языка (X – XIV веков). – Спб. 1863). Прааналізуйце яго мову, вызначыўшы стараславянскія, старажытнарускія і асобныя мясцовыя моўныя асаблівасці (зрабіце выпіскі). На аснове тэксту ўрыўка зрабіце вывад пра характар пісьменнасці на тэрыторыі Беларусі ў старажытнарускі перыяд.*

## Надпіс на крыжы Ефрасінні Полацкай

Въ льто 6669 покладаеть Офросинья чьстьныи крестъ. въ манастыри своемъ въ црькви святаго Спаса. чьстьное дрьво. бесцьньно есть. а кованье его. злото и серебро. и камьнье. и жьнчюгъ. въ 100 гривнъ. а да 40 гривнъ. да нъ изнесьться из манастыря никогда же яко ни продати. ни отдати. аще се кто прьслушаеть. изнесьть и отъ манастыря. да не буди ему помощьникъ. чьстьныи крестъ ни въ съ вькъ ни въ будущии. и да будеть проклятъ святою животворящею троицею. и святыми отци… кто же дрьзнеть сътворити се… властелинъ. или князь. или пискупъ. или игумьнья. или инъ которыи любо человькъ а буду ему клятва си. Офросинья же раба Христова сътяжавъши крестъ сии. прииметь вьчную жизнь съ всьми святыми. господи помози рабу своему Лазорю нареченему Богъши съдьлавъшему кръстъ сии црькви святаго Спаса и Офросиньи.

*властелинъ* – уладар
*пискупъ* – епіскап
*сътяжати* – садзейнічаць чаму-небудзь
*чьстьныи* – свяшчэнны

***

ІІ. Пад час рамонту водаправода ў Віцебску (1959 г.) была знойдзена берасцяная грамата, якая адносіцца да ХІІІ – XIV стст. і ўяўляе сабой прыватны ліст ( “от Степана къ Нежилови”). Зараз грамата захоўваецца ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі.

*Вызначце ў тэксце граматы характэрныя для вусна-гутарковай мовы ўсходніх славян асобныя словы і звароты, фанетычныя і марфалагічныя рысы.*

От Стьпана к Нежилови. Оже еси продалъ порты, а купи ми жита за 6 гривенъ. А ли цего еси не продалъ, а посли ми лицемъ. А ли еси продалъ, а добро сътворя у купи ми жита.

*порты* – штаны *лицемъ* – у наяўнасці *жито* – ячмень

## Літаратура

***Асноўная :***


1. Жураўскі А.І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1967. Т.1. С. 15-34.
2. Красней В.П., Шакун Л.М. Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1986. С. 8-13.
3. Шакун Л.М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2-е выд. Мн., 1984. С. 32-79.


***Дадатковая :***


1. Булахов М.Г. О сравнительной лингвистической оценке переводов «Слова о полку Игореве» на современные восточнославянские языки // Тыпалогія і ўзаемадзеянне славянскіх моў і літаратур. Мн., 1973.
2. Воінаў М. “А ці не лепей, братове” … : Роздум над новым перакладам “Слова” // ЛіМ, 1985. 20 снежня. С. 5.
3. Дроченина Н.Н., Рыбаков Б.А. Берестяная грамота из Витебска // Советская археология. 1960. № 1. С. 282-283.
4. Зарэмба Л. Я., Купала і М. Гарэцкі – перакладчыкі “Слова…” // Полымя, 1985. № 4. С. 207-214.
5. Ковалевская Е.Г. История русского литературного языка. М., 1992.
6. Кожин А.Н. Литературный язык Киевской Руси. М., 1981.
7. Мещерский Н.А. История русского литературного языка. Л., 1981.
8. Селищев А.М. О языке «Русской правды» в связи с вопросом о древнейшем типе русского литературного языка. // Селищев А.М. Избранные труды. М., 1968.


## Тэма 3. СТАРАБЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА XIV – XVII стст.

**Пытанні**

1. Фарміраванне беларускай народнасці і яе мовы ў складзе Вялікага княства Літоўскага. Асноўныя этапы развіцця старабеларускай літаратурнай мовы.

2. Літаратурна-пісьмовыя помнікі XIV – XVIII стст., іх моўныя асаблівасці. Функцыянальна-стылістычная дыферэнцыяцыя старабеларускай літаратурнай мовы.

3. Дзве тэндэнцыі ў развіцці старабеларускай літаратурнай мовы.

4. Фарміраванне граматычна-правапісных асаблівасцей старабеларускай літаратурнай мовы.

**Асноўныя паняцці:** *вусна-гутарковы, граматычна-правапісны, дзелавы, канфесійны, кніжна-пісьмовы, літаратурна-пісьмовы, моўна-стылістычны, свецка-мастацкі, старабеларускі.*

****Падрыхтуйце* ***рэфэрат*** *на тэму : “Чаму Беларя Русь – Белая ? “*

**Літаратура**


1. Імя тваё Белая Русь / Уклад. Г.М. Сагановіч. Мн., 1991.
2. Крывіцкі А.А. Наша родная мова. Мн., 1973. С. 83-85.
3. Тарасаў К. Памяць пра легенды. Постаці гістарычнай мінуўшчыны. Мн., 1990.
4. Чамярыцкі В., Жлутка А. Першая згадка пра Белую Русь. XIII ст. // Адраджэнне. Гістарычны альманах. 1995. Вып. 1. С. 143-147.


**Заданне 1**

Статуты Вялікага княства Літоўскага ўяўляюць сабой зводы законаў феадальнага права ВкЛ. Гэта найбольш значныя помнікі канцылярска-юрыдычнага пісьменства XVI ст. Вядомы 3 рэдакцыі Статутаў – 1529, 1566 і 1588 гг. У іх атрымалі юрыдычнае замацаванне асновы грамадскага і дзяржаўнага ладу, прававое становішча класаў і сацыяльных груп насельніцтва, а таксама састаў і паўнамоцтвы асноўных органаў дзяржаўнага кіравання і суда. Ніжэйпрыведзены тэкст узяты са Статута літоўскага 1588 г. і прыводзіцца па выданні: Статут Вялікага княства Літоўскага – 1588. Мн/, 1989. С. 221.

*Вызначце ва ўрыўку традыцыйныя напісанні, якія не адлюстроўваюць змен і фанетычных асаблівасцей беларускай мовы. Укажыце адлюстраваныя ў тэксце спецыфічныя фанетыка-граматычныя рысы старабеларускай мовы XV – XVI стст. Наколькі шырока і паслядоўна яны адлюстраваны ? Што можна сказаць пра лексічныя асаблівасці мовы ўрыўка ?*

**Артыкул 16**
**Естли бы которая вдова замуж пошла.**

Уставуем теж: естли бы которая вдова замуж пошла, а напервей, будучы за первшым мужом своим, вено, оправленое от мужа своего, мела, тогды вжо от другого мужа не маеть вена записаного мети. Нижли естли

бы тот другий муж ее умер, а дети по собе зоставил, тогды она межы детми своими ровную часть в именью взяти маеть, а на том до живота мешкати. А естли бы одно дитя зостало, тогды от того дитяти албо от ближних маеть на вдовьем столцу толко на третей части зостати, а по животе и тая третяя часть маеть спасти на близких. А вед же седечы на вдовьем столцу, не маеть того именья утратити, але се во всем заховати водле того, яко вышей в том написано. Однако ж тую волность мужу заховуем, иж волно ему будеть и такой жоне своей, вдовою понятой, што всхочеть маетности своее лежачое и рухомое записати. А которой жоне што от мужа лежачого именья записано будеть, таковая вжо от детей, ани от близких части, вышей споминаное, в именью мужнем домогатися не мають.

*вено* – матэрыяльнае забеспячэнне пасагу жонкі маёмасцю мужа
*вдовий столецъ* – матэрыяльнае палажэнне ўдавы

*маетность* – маёмасць, рэчы

**Заданне 2**

Грамата палачан у Рыгу (1465 г.) ўпершыню была змешчана ў выданні “Русско – ливонские акты” (Спб., 1868). Арыгінал Граматы захоўваецца ў Рыжскім гарадскім архіве. Тэкст для аналізу прыводзіцца па выданні: Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы (1961, ч.1. С. 55-56).

*Прачытайце тэкст (пры неабходнасці для тлумачэння незразумелых слоў карыстайцеся Гістарычным слоўнікам беларускай мовы (вып.1-21)). Прааналізуйце мову Граматы, вызначыўшы :*

*а) уласнабеларускія фанетычныя і марфалагічныя рысы;*

*б) лексічныя інавацыі (параўнальна са старажытнарускімі дзелавымі помнікамі). Дакажыце (зрабіце выпіскі), што тэкст належыць да дзелавой пісьменнасці.*

## Грамата палачан у Рыгу 1465 г.

Отъ мьщанъ полоцкихъ и отъ всего посполства полоцкого мьста тымъ почестливымъ сусьдомъ нашимъ и приятелемъ честнымъ и милымъ пану буръмистру и рядцамъ и всьмъ мьщаномъ ризкого мьста поклонъ приятелскыи. а такожь здесь появилося было повьтрие на людей. на тыхъ которыи у васъ у Ризе были кормники и тяглеци ино иныи на дорозе помьрли а иныи которыи у городъ пришли ино и на тыхъ было, а нынь уже далъ богъ тое повьтрие унялося отъ божья нароженья и до сихъ мьстъ у насъ того нетъ богъ помиловалъ. протожь што бы ваша милость. нашихъ полочанъ къ собь пускали быхмо промежъ себе торговали, какъ прежь было и сусьдство и приязнь мьли. а псанъ у Полоцку в льто 6973. индикта 12, месяца генваря, 12 день: Тымъ почестливымъ сусьдомъ нашимъ чест-

нымъ и милымъ пану буръмистру и рядцамъ и всьмъ мьщаномъ ризкого мьста. приятелемъ нашимъ.

**Заданне 3**

“Аповесць пра Трышчана” – вядомы перакладны помнік старабеларускага пісьменства XVI ст. Рыцарская аповесць пра Трыстана і Ізольду была перакладзена на беларускую мову з сербскага арыгінала, які ў сваю чаргу ўзыходзіў да італьянскай рэдакцыі. Беларускі пераклад аповесці дайшоў да нас у адзіным спісе ў складзе рукапіснага Познанскага зборніка XVI ст., які захоўваецца ў Публічнай бібліятэцы імя Э. Рачынскага ў Познані (урывак для аналізу прыводзіцца па выданні: Веселовский А.Н. Из истории романа и повести: Материалы и исследования. Вып. 2. Славяно-романский отдел. СПб., 1888).

*Прааналізуйце мову ўрыўка з “Аповесці пра Трышчана”. Вызначце (зрабіце выпіскі) фанетычныя асаблівасці жывой беларускай мовы. Ахарактарызуйце суадносныя традыцыйныя і новыя (спецыфічныя беларускія) з'явы ў граматычным ладзе, з'явы, абумоўленыя іншамоўным уплывам у галіне лексікі, моўна-выяўленчыя сродкі твора. Параўнайце мову дадзенага ўрыўка з мовай Граматы палачан у Рыгу 1465 г. (гл. заданне 2). У якім з тэкстаў рысы жывой беларускай гаворкі адлюстраваны найбольш шырока і поўна ? Чым гэта можна растлумачыць ? Зрабіце агульны вывад адносна характару мовы старабеларускіх пісьмовых крыніц рознай жанрава-стылістычнай прыналежнасці.*

**Аповесць аб Трышчане**

Потомъ немного минувшы король поехал в ловы з доброю дружыною а с нимъ Трыщанъ и Говорнаръ абы ся учыл лову, и ехали по дуброве, але прыехали два рыцэры у зброи и со всею бронею, и спытали: кое тут есть король? Они рекли: ото король и з сыномъ. Рекъ Говорнаръ: Што говориш? Ньтъ тутъ его сына, оставилъ дома. И приступили тые рыцэры, рекли королю: Ты намъ не чынилъ ничого злого, але нехто иныи с твоего двора мыслит насъ погубити и тепер мыслимо збыти того если узможемъ. И вынявшы мечы нихто не могъ того оборонити абы король не был раненъ смертною раною у голове. А ихь объыхъ тутъ же забито. А они обадва были племя князю из Нороту, которые были наиболшое племя от Корновали. То имъ была одная ворожбитка поведила; вам погинути от короля Мелиядуша двора. А в том имъ была рада от короля Марка корновальского, иж онъ боял ся Трыщана, если прыидет к льтомъ, абы его с панства не выгналъ, якъ была оная ворожбитка рекла, якож и потомъ, коли Трыщанъ прышолъ к льтомъ, пришолъ из своею дружыною и вбилъ князя изъ Норота своею рукою и сказилъ город ихъ, ижъ там камень на камени не зостал.

## Літаратура

***Асноўная:***

1. Красней В.П., Шакун Л.М. Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1986. С. 48-56.
2. Шакун Л.М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2-е выд. Мн., 1984. С. 80-140.

***Дадатковая:***

1. Анічэнка У.В. Беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі. Мінск, 1969.
2. Беларусазнаўства / Пад рэд. П. Брыгадзіна. Мн., 1998. С. 139-146.
3. Булыка А.М. Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы. Мн., 1970.
4. Гістарычны слоўнік беларускай мовы. / Пад рэд. А.М. Булыкі. Мн., 1982-2002. Вып. 1-21.
5. Карский Е.Ф. Что такое древнее западнорусское наречие? // Жывая спадчына. Мн., 1992. С. 42-55.
6. Статут Вялікага княства Літоўскага – 1588. Мн., 1989.
7. Шакун Л.М. Карані роднай мовы. Мн., 2001. С. 19-24, 71-72, 72-77, 80-88.
8. Юрэвіч У.М. Слова жывое, роднае, гаваркое… Мінск, 1988. С. 40-47.
9. Янкоўскі Ф.М. Гістарычная граматыка беларускай мовы. 3-е выд. Мн., 1989. С. 51-53.

## ТЭМА 4. КАНЦЫЛЯРСКА-ЮРЫДЫЧНАЕ ПІСЬМЕНСТВА XIV – XVII СТСТ. МОВА ДЗЕЛАВЫХ ПОМНІКАЎ

**Пытанні**

1. Беларуская мова – дзяржаўная мова Вялікага княства Літоўскага. Юрыдычна-дзелавыя помнікі на беларускай мове (XV – XVII стст.).
2. Асаблівасці мовы дзелавой пісьменнасці XV – XVII стст.

**Асноўныя паняцці:** *архаізм, грамадска-палітычны, дзелавы, інавацыя, канцылярска-юрыдычны, сацыяльны, судовы, традыцыйнае напісанне, тэрмін, тэрміналагічнае словазлучэнне.*

**Заданне 1**

*З прыведзенага рада слоў выпішыце тыя, якія сваёй семантыкай былі звязаны з характарыстыкай сацыяльнай сферы дзейнасці чалавека і шырока ўжываліся ў канцылярска-юрыдычных помніках XV – XVII стст. Згрупуйце іх тэматычна. Адзначце запазычаныя лексемы. З якіх моў яны запазычаны? Прасачыце лёс выпісаных слоў у працэсе моўнай эвалюцыі. Пры неабходнасці карыстайцеся Гістарычным слоўнікам беларускай мовы*

*(вып. 1-21) і "Старабеларускім лексіконам" М.Р. Прыгодзіча, Г.К. Цівановай (1997г.); гл. таксама: Булыка А.М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV – XVIII стст. (1980 г.).*

Мещанинъ, лекатися, кунштъ, чиншъ, княгиня, глубокий, добро, имети, секретарь, пенезь, платити, монастырь, золото, вещебный, пошлина, книга, мордъ, тестаментъ, взглядати, брона, листъ, звитяжити, куница, продажное, бояринъ, животъ, землянинъ, купити, крадежство, игуменъ, мыто, подчаший, спочатку, мужебойца, звада, зброя, малый, синдикъ, валчити, свецкий, заплата, царствовати, казати, бурмистръ.

**Заданне 2**

Вісліцкі статут – вядомы помнік юрыдычнага зместу (XIV ст.), які ўяўляе сабой заканадаўства польскага караля Казіміра III. Спачатку ў 1346 г. на лацінскай мове быў створаны Петракоўскі статут (34 артыкулы). У 1347 г. у Вісліцы ён быў дапоўнены (59 артыкулаў) і стаў вядомы як Вісліцкі статут. Лацінскі арыгінал 1347 г. паслужыў асновай для перакладу на старабеларускую літаратурную мову (каля 1423 г.) Урыўкі для аналізу прыведзены па выданні: Акты, относящиеся к истории Западной России. СПб., 1846, т. 1, 1340-1506 гг.

*Зрабіце аналіз мовы ўрыўкаў з «Вісліцкага статута». Вызначце характэрныя беларускія рысы на фанетычным і марфалагічным узроўнях. З якой паслядоўнасцю яны адлюстраваны ў тэкстах? Адзначце традыцыйныя напісанні. Укажыце тыповыя для дзелавой пісьменнасці сінтаксічныя канструкцыі і звароты.*

I. Што жыто въ ночи крадутъ. О злодьйствь жыта на поли…: коли которого пана, а любо мьщанина слуга, у ночи, ньякоторого кметя жыто беретъ, годиться государю того жыта боронити своего, а любо его слузь , а любо пріятелю; а забьетъ ли того, хто жыто беретъ, тогды не маеть жадно вины; а тотъ панъ чый слуга жыто беретъ, имь етъ вину намъ платить 15; а будетъ ли раненъ тотъ, а любо забитъ, што жыта боронилъ, тогды имьетъ дьтемъ его, а любо пріятельмъ его раны платить, а любо головное, зъ винами преречеными нашими.

*головное* – штраф за забойства *кметь* – селянін, жыхар вёскі

2. Который ходитъ у чюжій льсъ. Тежъ уставляемъ: хто съ кимъ имъетъ границу при лъсъ, а войдътъ чересъ границу у чюжій лъсъ, а тотъ его застанетъ…, маеть у него узяти за первое застатье сокиру; а въ другое застанеть, ино метель, а любо сукно; а въ третіе застанетъ, маетъ взяти любо вола, а любо коня, а то безъ вины; а возметъ два вола или коня, тогды имъетъ одного собь держати, а другого пустить маеть на поруку, и маеть знаменіе учинить на деревъ, гдъ тотъ узялъ закладъ. Коли жъ хто украдетъ

дубъ или два у чюжомъ гаю, маеть платити 6 скотцъ за каждый дубъ; а будетъ… три, тогды три вердунки маетъ дати тому, чій гай есть, а 3 гривны вины; а коли только вътьвь отрубитъ, 4 скотцы маеть платить; а на дубровь за дубъ 2 скотцы. А хто кому дерево зрубить со пчолами, имьеть заплатить гривну тому, чіи пчолы, а другую судови гривну; а хто бортное дерево зрубить безъ пчолъ, то полгривны заплатить, а судови другую полгривны.

*вердунокъ* – манета, чвэрць грыўны *знаменіе* – знак, метка

**Заданне 3**

“Судзебнік” 1468 г. вядомы як першы кодэкс крымінальнага і працэсуальнага права ў Вялікім княстве Літоўскім. Выдадзены каралём Казімірам IV у 1468 г., ён дзейнічаў да выдання Статута 1529 г. Урывак для аналізу прыводзіцца па выданні: Акты, относящиеся к истории Западной России. СПб., 1846, Т.1, 1340-1506 гг.

*З прыведзенага ўрыўка выпішыце: а) словы і выразы, якія выступаюць у якасці грамадска-палітычных, сацыяльных і юрыдычных тэрмінаў (тэрміналагічных словазлучэнняў) і сведчаць аб прыналежнасці тэксту да дзелавой пісьменнасці; б) словы, якія з’яўляюцца тыповымі для тагачаснай жывой беларускай гаворкі. Якія з выпісаных намінацый можна кваліфікаваць як архаізмы, а якія – як лексічныя інавацыі? Абгрунтуйце сваю думку. Вызначце спецыфічныя беларускія асаблівасці ў галіне фанетыкі, марфалогіі і сінтаксісу. Наколькі паслядоўна яны адлюстраваны ва ўрыўку?*

А коли бы злодьй што у кого укралъ, а и гдь украдьно, а тамъ его ухватятъ съ лицомъ, а он у домъ не принеслъ, жона и дьти не поживали: злодьй терпи, а жона и дьти и домъ ихъ невиненъ. А коли злодьй изъ дому вышелъ, а украдеть што и потеряеть, а любо што изъьсть, а кромь жоны и дьтей: ино домовыми статкы, што того татя властное, заплатити; а жона и дьти, и статкы женьни отъ того порожни …

А который будеть лежьни держати у своемъ дому тайно, а сусьдемъ околици не оповьдаеть, а въ томъ часу што у кого изгынеть, а будеть на то доводъ, ижь лежьни дрьжалъ: ино дати тому рокъ, и другій и третій, ижь бы того лежьня поставилъ, ли съ себе извелъ; а пакъ ли на рокъ на посльдній не поставить, заплати жъ, а того ищи; а нашодъ къ праву поставити: не дьй исправляется, а то уже заплачено …

А будуть ли на нашомъ человьцъ князьскыи или паньскыи или боярскыи люди чого искати: ино тому судъ и право передъ нашими намьстникы и тивуны …

*л е ж ь н и* – салдаты, размешчаныя на пастой

*л и це* – след, доказ

*п а к ъ л и* – а, калі ж

*р о к ъ* – год, тэрмін

## Літаратура

***Асноўная*:**

1. Жураўскі А.І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1967. Т.1. С. 35-39, 240-263.
2. Жураўскі А.І. Канцылярска-юрыдычнае пісьменства XV – XVII стагоддзяў // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 249-251.
3. Красней В.П., Шакун Л.М. Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы. – Мінск, 1986. – С. 48-87.
4. Шакун Л.М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2-е выд. Мн., 1984. С. 97-105.

***Дадатковая:***

1. Анічэнка У.В. Вісліцкі статут // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 111-112.
2. Жураўскі А.І. Метрыка Вялікага княства Літоўскага // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 346-347.
3. Жураўскі А.І. Статуты Вялікага княства Літоўскага // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 534-536.
4. Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Мн., 1989.
5. Шакун Л.М. Помнікі дзелавой пісьменнасці як крыніцы гісторыі беларускай літаратурнай мовы // Шакун Л.М. Карані роднай мовы. – Мінск, 2001. С. 43-51.

## ТЭМА 5. ЦАРКОЎНАСЛАВЯНСКАЯ МОВА НА БЕЛАРУСІ Ў XIV – XVIII стст.

**Пытанні**

1. Узнікненне беларускай рэлігійнай літаратуры. Моўныя асаблівасці рэлігійных твораў XIV – XVII стст.
2. Францыск Скарына – беларускі першадрукар, асветнік, гуманіст. Значэнне яго выдавецкай і пісьменніцкай дзейнасці.
3. Мова выданняў Францыска Скарыны.
4. Сымон Будны як паслядоўнік Францыска Скарыны. Выдавецкая дзейнасць С. Буднага, асаблівасці мовы яго выданняў (на прыкладзе “Катэхізіса”).
5. Васіль Цяпінскі як беларускі гуманіст-асветнік. Пераклад “Евангелля” В. Цяпінскім, моўныя асаблівасці выдання.
6. Царкоўнаславянская кніжна-літаратурная мова на Беларусі ў XIV – XVIII стст.

**Асноўныя паняцці:** *абстрэма, богаслужэбны, канфесійны, кнігадрукаванне, кніжнаславянскі, “першы (другі) паўднёваславянскі ўплыў”, рэлігійны, рэлігійна-бытавы, стараславянізм, царкоўнаславянскі.*

****Падрыхтуйце **рэфераты** па наступных тэмах:*

I. “Францыск Скарына – слаўны сын зямлі беларускай”.

**Літаратура**

1. Александровіч С. Францыск, Скарынін сын з Полацка // Тут зямля такая. Мн., 1985. С. 3-15.
2. Алексютовіч М.А. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мн., 1958. С. 40-145.
3. Дварчанін І.С. Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве. Мн., 1991.
4. Клышка А. Францыск Скарына, альбо як да нас прыйшла кніга. Мн., 2000.
5. Мешчаракоў У.П. Асветніцкая дзейнасць і педагагічныя погляды Ф. Скарыны. Мн., 1990.
6. Немировский Е.Л. По следам Ф. Скорины. Мн., 1990.
7. Немировский Е.Л. Ф. Скорина: Жизнь и деятельность белорусского просветителя. Мн., 1990.
8. Подокшин С.А. Ф. Скорина. М., 1981.
9. Спадчына Скарыны: Зб. матэр. першых скарынаўскіх чытанняў (1986). Мн., 1989.
10. Францыск Скарына і яго час: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1988.
11. Чамярыцкі В.А. Беларускі тытан эпохі Адраджэння: Да 500-годдзя з часу нараджэння Францыска Скарыны. Мн., 1990.

II. “Мастацкае афармленне выданняў Францыска Скарыны”.

**Літаратура**

1. Акуліч С.А. Старажытная кніга – помнік мастацтва // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1978, № 2. С. 15-18.
2. Гравюры Ф. Скарыны (Альбом). Мн., 1972.
3. Шматаў В.Ф. Мастацкае афармленне віленскіх выданняў Ф. Скарыны (1522-1525) // Беларуская мова і літаратура ў школе. 1989. № 1. С. 47-52.

**Заданне 1**

*З прыведзенага рада слоў выпішыце тыя, якія шырока ўжываліся ў канфесійнай літаратуры XV – XVI стст. і сваёй семантыкай былі звязаны са сферай рэлігійнага жыцця чалавека. Асобна ўкажыце старaславянізмы, вызначыўшы іх фанетычныя і словаўтваральныя прыкметы. Запазычанні з якіх яшчэ моў сустрэліся? Адзначце полісемантычныя лексемы. Якія з іх*

*уваходзяць у склад канфесійнай лексікі толькі часткай свайго семантычнага аб'ёму? Пры неабходнасці карыстайцеся Гістарычным слоўнікам беларускай мовы (вып. 1-21), "Старабеларускім лексіконам" М.Р. Прыгодзіча, Г.К. Цівановай (1997 г.), Этымалагічным слоўнікам беларускай мовы (тт. 1-8).*

Библия, правдивый, воспети, господаръ, събирати, блаженный, мнихъ, житие, весело, богъ, вонтпливый, благоверие, трапеза, думати, евангелие, ланита, писати, ангелъ, латина, верещати, исповедникъ, дъяболъ, облако, богобоязливый, капище, згинути, последний, архиерей, книга, грешный, игуменъ, идолохваление, храмъ, балвохвальство, карвункулъ, грамота, година, зверь, мечеть, церковъ, крестити, мудрий, грецкий, жегнати, человекъ, секта, говение, божьство, боголепно, просити.

**Заданне 2**

*Зрабіце аналіз мовы ніжэйпрыведзеных урыўкаў з выданняў Ф. Скарыны, С. Буднага і В. Цяпінскага, вызначыўшы, у якой ступені ў іх адлюстраваліся: а) лексічныя, фанетычныя і граматычныя асаблівасці жывой беларускай мовы; б) кніжнаславянскія моўныя з'явы; в) іншамоўны лексічны ўплыў. Зрабіце вывад адносна таго, у якім напрамку адбывалася развіццё мовы канфесійных твораў XV – XVI стст.*

Францыск Скарына (каля 1490 г. – каля 1541 г.) – беларускі першадрукар, асветнік, гуманіст, вучоны, перакладчык. На працягу 1517-1519 гг. у чэшскай Празе Ф. Скарына выдаў 23 кнігі Бібліі, якую ён разглядаў не толькі як кодэкс хрысціянскай маралі, але і як крыніцу разнастайных ведаў: "богу ко чти и людем посполитым к доброму научению". Пісьменніцкія здольнасці першадрукара выявіліся пры напісанні ім да кожнай кнігі прадмоў, якія нагадваюць нам сучасную публіцыстыку, дзе аўтар выказвае свае грамадска-палітычныя, філасофскія, маральна-этычныя і эстэтычныя погляды, імкнецца праз выданне сваіх кніг дапамагчы суайчыннікам – "людемъ посполитымъ" – пазнаць мудрасць і навуку. Поўны збор выданняў Ф. Скарыны захоўваецца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М.Я. Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу. Урывак для аналізу ўзяты з прадмовы да кнігі "Еклесиастесъ".

I. … Въ розмаитыхъ речахъ люди на свете покладают мысли и кохания своя. Едины в царствахъ и в пановании. Друзии в богатестве и въ скарбохъ. Инии в мудрости и в науце. А инии въ здравии, в красоте и въ кръпости телеснои. Неции же во множестве имения и статку. А неции в роскошном ядении и питии и в любодеянии. И инии теже въ детех, въ приятелехъ, во слугахъ и во иных различныхъ многых речах. А тако единыи каждыи человъкъ имет некоторую речь предъ собою, в неи же ся наболеи кохает и о неи мыслит.

***

Сымон Будны (1530-1593 гг.) – вядомы ў гісторыі беларускай культуры гуманіст, асветнік, адзін з буйнейшых дзеячаў рэфармацыйнага руху, чыя літаратурная і выдавецкая дзейнасць працякала ў рэчышчы гуманістычных і культурна-асветніцкіх традыцый Ф. Скарыны. С. Будны пісаў свае творы па-беларуску і па-польску. У 1562 г. у Нясвіжы ім быў выдадзены «Катэхізіс» (ад грэч. Katēchēsis ‘настаўленне, павучанне’) на беларускай мове, які ўяўляе сабою даведнік па асноўных артыкулах хрысціянскага веравучэння і напісаны ў форме кароткіх, лаканічных пытанняў і разгорнутых, падрабязных адказаў. Прапанаваны для аналізу ўрывак узяты з “Катэхізіса” і прыводзіцца па экземпляры, які захоўваецца сёння ў аддзеле рэдкай кнігі Расійскай Дзяржаўнай бібліятэкі ў Маскве.

II. Да ведже не кажное войны христианинъ служити можеть. Бо часомъ война бываеть несправедливая. Яко коли Тыраннъ или мучитель какый гордый, не переставаючи на своемъ паньстве, чужие городы, князства или земли силою забираеть. Таковое войны служити христианину не годиться. бо таковая война есть розбой. А кто бы тамо человека, хотя жь не христианина, убилъ, вередилъ або обиделъ, той противу шестому слову божіему убійство пополнилъ… Опять справедливая война есть, коли не для гордости, не для лакомъства, але для обороны предъловъ своихъ Король или Княз оружие противу враговъ своимъ береть, отпъраючы имъ, абы подданыхъ его не мордовали, не вязали, в полонъ не гнали, женам и девицамъ насилиа не чинили, церкви не потребили, детей не споганили або не побили, градов не спустошили, учителей не розгонили и всякого чину доброго не помъшали. С тыхъ причинъ. а не таковых людей слушнаа бываеть война. можъть ее христианинъ з доброю совъстию служити.

***

Васіль Цяпінскі (Амельяновіч; каля 1540 г. – каля 1604 г.) – беларускі гуманіст, асветнік, пісьменнік і рэфармацыйны дзеяч, прадаўжальнік культурна-асветніцкай справы Ф. Скарыны і сучаснік С. Буднага, які паклаў пачатак перакладу на беларускую мову кніг Новага запавету. “Евангелле” В.Цяпінскага (пераклад зроблены каля 1580 г.) – першы і адзіны вядомы цяпер пераклад евангелля на старабеларускую мову другой палавіны XVI ст. Тэкст кнігі надрукаваны ў два слупкі – на царкоўнаславянскай і беларускай мовах, са шматлікімі глосамі і спасылкамі на літаратурныя крыніцы. Да перакладу “Евангелля” В. Цяпінскі напісаў прадмову ў абарону беларускай культуры – адзін з лепшых узораў публіцыстыкі той эпохі. Для аналізу прапануецца тэкст з прадмовы да “Евангелля” (па экземпляры, які захоўваецца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М.Я. Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу; другі экземпляр зберагаецца ў Архангельску).

III. Видечи такъ великихъ княжатъ, такихъ пановъ значныхъ. такъ много детокъ невинныхъ. мужовъ з жонами. в такомъ зацномъ рускомъ, а злаща передъ тымъ довстипномъ учономъ народе. езыка своего славнаго занедбане, а просто възгарду. С которое за покаранемъ панскимъ оная ясная ихъ, в слове божьемъ мудрость.а которая имъ была праве яко врожо-

ная, гды от нихъ отишла, на ее мъстьце на тыхъ мъсть, такая оплаканая, неумеетность пришла. же вжо некоторие и писмом се своимъ а злаща в слове божемъ, встыдають. А на остатокъ што можеть быти жалоснейшая, што шкарадша. иж и тые што се межи ними зовуть духовными, и учители, смъле мовлю, намней его не вмеють, намней его вырозуменя не знають, ани се в немь цвичать. але и ани школы ку науце его, нигде не мають…

*звлаща* – асабліва, пераважна
*праве* – амаль, сапраўды
*цвичати* – навучаць
*шкарадный* – кепскі, агідны

## Літаратура


***Асноўная:***

1. Анічэнка У.В. Слоўнік мовы Скарыны. Т.1-2. Мн., 1977-1984.
2. Булыка А.М., Жураўскі А.І., Свяжынскі У.М. Мова выданняў Францыска Скарыны. Мн., 1990.
3. Жураўскі А.І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1967. Т.1. С. 80-225, 282-335.
4. Клімаў І.П. Пераклад «Евангелля» В. Цяпінскім // Беларуская лінгвістыка. 1997. Вып. 47. С. 54-60.
5. Конан У.М. "Катэхізіс" Сымона Буднага // Беларуская мова : Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 258-260.
6. Красней В.П., Шакун Л.М. Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1986. С. 104-113.
7. Свяжынскі У.М. "Евангелле" В. Цяпінскага // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 198-200.
8. Шакун Л.М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2-е выд. Мн., 1984. С. 120-134, 140-148.

***Дадатковая*:**

1. Будзько І.У. Рэлігійная лексіка старабеларускай мовы: Аўтарэф. дыс. … канд. філалаг. навук. Мн., 1999.
2. Коршунаў А.Ф. В. Цяпінскі // Асвета і педагагічная думка ў Беларусі. Мн., 1985. С. 88-93.
3. Свяжынскі У.М. Скарына Францыск // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 495-497.
4. Свяжынскі У.М. Слова Скарыны. Мн., 1984.
5. Шакун Л.М. Карані роднай мовы. Мн., 2001. С. 5-19, 36-42, 62-70, 77-80.
6. Гл. таксама літаратуру да рэфератаў.

## ТЭМА 6. МОВА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІХ ТВОРАЎ XIV – XVII стст.

**Пытанні**

1. Асноўныя групы літаратурна-мастацкіх твораў XIV – XVII стст., іх моўныя сродкі і стылёвыя адзнакі.
2. Летапісанне на Беларусі ў XV – XVII стст. Мова беларускіх летапісаў.
3. Мова літаратурна-мастацкіх твораў XVI – XVII стст.:

а) мова вершаў А. Рымшы і С. Полацкага;

б) мова свецка-мастацкіх помнікаў;

в) мова сатырычных твораў XVII ст. (“Прамова Мялешкі” і “Ліст да Абуховіча”);

г) мова навуковых і палемічных твораў.

**Асноўныя паняцці:** *летапіс, летапісанне, мастацка-белетрыстычны, мемуарны, навуковы, палемічны, сатырычны, свецка-мастацкі.*

**Заданне 1**

*Прааналізуйце мову ўрыўкаў з Баркалабаўскага летапісу і “Хронікі” М. Стрыйкоўскага, выпісаўшы а) агульнапашыраныя фанетычныя і марфалагічныя рысы беларускай мовы; б) іншамоўныя элементы; в) сродкі мастацкай выразнасці. Ахарактарызуйце лексіку ўрыўка з пункту гледжання яе паходжання і далейшага лёсу ў беларускай мове.*

Баркалабаўскі летапіс – каштоўны помнік беларускай культуры – адзін з найбольш цікавых гісторыка-літаратурных помнікаў старабеларускай пісьменнасці канца XVI – пачатку XVII ст. У ім знайшлі адлюстраванне падзеі, якія адбыліся з 1545 па 1608 гг. у сяле Баркалабава на Магілёўшчыне, а таксама ў іншых мясцовасцях Беларусі. Летапіс змешчаны ў зборніку XVII ст. і захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве. Урывак для аналізу прыводзіцца па выданні: “Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы” (1961 г., ч. 1, с.312-313).

I. Того жъ року ã х ã месяца октобра десятого дня целую неделю снегъ силныи и кгвалтовныи ишолъ, выпал до пол голени, так же и буря силная была, тогды пшеницы, ярицы, овес гречиху горохи, и вси овощы, великое множество ярицы на полях непожатые, так же и копы жатые снегомъ позаметала метелица, иж было жалосно и страшно гледети и выповедити уздыханя и плачу людей убогих пашников немаетных, а так лежал тот снегъ в недели ажъ до дмитровы суботы, якожъ з великихъ морозов река днепръ был замерзъ, и ездили по немъ яко серед зимы а потом за ласкою всемилостивого господа бога для плачу и великого уздыханя снегъ ростал и река днепръ росплынулся а потом почали жати горовати по снегу

у стужу, были теж морозы великие, огне клали, сами грелися ижъ страшно и жалосно было гледети.

***

Адным з найбольш вядомых гістарыёграфаў другой палавіны XVI ст. з'яўляецца Мацей Стрыйкоўскі. У 1582 г. на польскай мове была выдадзена яго праца "Kronika Polska, Litewska, Zmudzka i wszystkiej Rusi". У першай палавіне XVII ст. твор перакладзены на беларускую мову. Беларускі пераклад "Хронікі" М. Стрыйкоўскага пачатку XVII ст. сёння захоўваецца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу. Урывак для аналізу прыводзіцца па выданні: "Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы" (1961 г., ч. 1., С. 390-391).

II. Выводъ слушный и певный. для чого ся нашъ народ называетъ словянами:

Словяне маютъ быти власливе. а правдиве (о чомъ ся з многихъ гисториковъ вышей показало) звани. ведлугъ зданя мудрыхъ людей от славы: поневажъ сами словяне. и болгарове з руского прырожоного языка. тое имя собѣ одностайне дали. от славы и от своихъ рицерскихъ дѣлностей. А такъ коли ся они самы славными. словянами звали. теды и римяне з которыми се долго валчили. о грецкие и влоские панства почали ихъ звати славянами. не от словъ але от славы для тогожъ русь поляки. и чехове завжды болшей кохалися в учтивость нижли в скарбахъ. княжата сыномъ своимъ. и иншимъ народу своего. людемъ посполите имена давали. злучене з славою. яко Свѣтославъ. Ярославъ. Преславъ. Бориславъ. Выробиславъ. то естъ который самъ собѣ своею дѣлностю славу выробилъ. Мстиславъ. который выймуется за славу. Станиславъ. становячий собѣ славу. Мечславъ от меча славный. естъ то речь правдиве потребна якожъ и подобна: чого тежъ и Кромеръ во гисторияхъ и во всихъ наукахъ вызволеныхъ бозскихъ и свѣцкихъ, значне и достаточне посвѣдчаетъ.

*валчити* – змагацца, біцца, ваяваць
*ведлугъ зданя* – паводле думкі, меркавання
*влоский* – італьянскі
*выймоватися* – тут дабываць
*дѣлность* – храбрасць
*науки вызволеные* – гуманітарныя
*нижли* – чым
*панство* – дзяржава
*поневажъ* – таму што, таму, бо; хоць, хаця
*посполите* – звычайна

**Заданне 2**

*Прааналізуйце лексіку ўрыўкаў з "Александрыі" пачатку XVII ст. Вызначце, у якой ступені адлюстраваны: а) лексічныя асаблівасці тагачаснай беларускай мовы; б) іншамоўны лексічны ўплыў; в) архаічныя моўныя з'явы. Ахарактарызуйце сродкі мастацкай выразнасці, выкарыстаныя ў тэкстах.*

Сярод перакладных старабеларускіх твораў прыкметнае месца займае “Александрыя” пачатку XVII ст. – папулярная ў сусветнай літаратуры воінская аповесць, арыгінал якой быў створаны ў II – III стст. н.э. у Егіпце на грэчаскай мове. Атрымаўшы шырокае распаўсюджанне ў часы Кіеўскай Русі, “Александрыя” стала не менш папулярнай і на Беларусі, дзе была вядома ў старарускіх, а таксама старабеларускіх перакладах XV – XVII стст. Найбольш поўным і дакладным у тэксталагічных адносінах з’яўляецца Санкт-Пецярбургскі спіс “Александрыі” пачатку XVII ст. (рукапіс Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М.Я. Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу, F. XVII. 5). Урыўкі для аналізу ўзяты з названага спіса і прыводзяцца па выданні: Александрыя / Склад. У.В. Анічэнка. Мінск, 1962. С. 66 (I), 87-88 (II).

I. Потом александер другого дня згромадивши людъ, которого было двакрот сто тысечей. а вступивши на вышшое местце, потвержалъ ихъ мовечи: не зровнается великост персовъ з грецкою великостю, бовемъ нас есть болшей ниж оных, А всякож хочъ оных и болшей буде, нехай се не лекают з того сердъца ваши, бо великое зобране мухъ не учинит жаднои поражки малости осам. услышавши то вес людъ вси одностайным голосом хвалили мудрост его и залецали. Рушивши дарий великое войско свое тягнул ку реце краме, а там свои наметы розбил. Был заправды люд дариев великий и велми моцный, мелъ ездных возов приправленых зъ острими железми і, А такъ другого дня зъехалисе в поле ободва гуфы. А александръ вседши на кон, которого звал дучепал, выскочил на герсть, а перед всим рицерством своимъ стanулъ, которого персове видячи, велми се его бояли: для того ижъ его взгляд виделсе имъ срогий и окрутный. Потом коли почато бит в бубны и трубы военныи, а такъ се заразом замешали шики, и почалисе окрутне бит. упадали зъ обу сторон рицери ранныи. а была таковая великость а густост стрелъ, иж тежъ все поветрее наполнено стрелами якобы оболоки затмеными. был там плач нарекане и смутокъ великий, иж все поле было наполнено умерлыми (л.19).

*згромадивши* – сабраўшы
*двакрот* – двойчы
*бовемъ* – бо, таму што
*лекатися* – палохацца
*жадный* – ніякі
*зобране* – мноства
*поражка* – шкода, страта
*залецати* – ухваляць
*наметъ* – шацёр, палатка
*ездный возъ* – фурманка
*железо* – зброя
*гуфъ* – частка войска
*герстъ* – пярэдняя лінія войск
*рицерство* – войска
*срогий* – суровы, жорсткі
*окрутный* – жорсткі, бязлітасны
*шикъ* – строй

II. Другого дня рушивши войско александръ, приехалъ до одного местца, где были столпы которих ираклий поставил, один был золотый, а другий сребреный, высокост ихъ была на к локот, а широкост на два локти: потом едучи далий вошли в великии пустыни, где было зимно а темность велика, такъ ижъ се сами ледво познавали: а такъ ездячи еі дний, приехали

до реки теплои, и видели над оною рекою невесты велми оздобныи, котории были в гробом а шкарядом оденю седячи на конех, а маючи сребряныи зброи: бо у нихъ было ани железа ани меди, мужове теж з ними мешками… Потом се оборотили на левую сторону до индеи: и вошли на неякую низкость болотную и высхлую в которой было полно тростины, през которую коли хотели перейти, зараз вышол зверъ против имъ подобный иппотамови маючи перси яко у коркодила, хребет якобы острая пила, а зубы его остри яко мечъ в хоженю был ленивъ яко жолвъ: А тое зверя двох рицеров забило, которого коли не могли пробит килепами ихъ железными збили (л. 29 б).

*локоть* – мера даўжыні (каля 0,5 см)
*зимно* – холад, сцюжа
*гробый* – просты, прымітыўны
*шкарядый* – брыдкі
*мешкати* – пражываць
*иппотамъ* – гіпапатам
*жолвъ* – чарапаха
*килепъ* – жалезны кій

**Заданне 3**

*Зрабіце аналіз мовы ўрыўкаў з "Прамовы Мялешкі" (XVII ст.) і верша С. Полацкага "Метры" (гл.: Красней В.П., Шакун Л.М. Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы, с. 120; 122-123 (практ. 50).*

## Літаратура

***Асноўная*:**

1. Жураўскі А.І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1967. Т. 1. С. 59-80, 263-282, 335-348.
2. Красней В.П., Шакун Л.М. Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1986. С. 117-125.
3. Шакун Л.М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2-е выд. Мн., 1984. С. 105-120, 134-140.

***Дадатковая:***

1. Анічэнка У.В. "Александрыя" // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 27-29.
2. Вайтовіч Н.Т. Баркалабаўскі летапіс. Мн., 1977.
3. Дзядова А.С. Зназіранняў над лексікай перакладу Віцебскага летапісу Панцырнага і Аверкі // Пісьменства і друк на Віцебшчыне: гісторыя і сучаснасць. Віцебск, 1996. С. 117-118.
4. Жураўскі А.І. Аповесць пра Баву // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 40-41.
5. Жураўскі А.І. "Троя" // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мінск, 1994. С. 562-563.
6. Жураўскі А.І., Званарова Л.У. Сімяон Полацкі // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 481-482.
7. Карнеева-Петрулан М.І. Мова Баркулабаўскага летапісу // Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР. 1957. Вып. III. С. 95-96.

8. Карский Е.Ф. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962. С. 208-248.

9. Лопатина Л.Е. Симеон Полоцкий // Русская речь, 1975, № 5. С. 113-119.

10. Майхровіч С. Афанасій Філіповіч // Маладосць, 1969, № 7. С. 137-142.

11. Мальдзіс А.І. Эпоха жорсткіх канфліктаў // Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 210-225.

12. Мароз В.К. Летапісы // Беларуская мова: Энцыклапедыя. – Мн., 1994. С. 305-306.

13. Полное собрание русских летописей. М., 1975. Т. 32; 1980. Т. 35.

14. Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. Мн., 1983.

15. Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975.

16. Свяжынскі У.М. "Гістарычныя запіскі" Ф. Еўлашоўскага. Мн., 1990.

17. Свяжынскі У.М. "Дыярыуш" А. Філіповіча // Беларуская мова: Энцыклапедыя, Мн., 1994. С. 194-196.

18. Скурат К. Антанімія як стылістычны сродак у "Лісце да Абуховіча" // Моўныя адзінкі і кантэкст. Мн., 1992.

19. С. Полоцкий и его книгоиздательская деятельность. М., 1982.

20. Суднік Т.М. "Аповесць пра Трышчана" // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 41-42.

21. Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

22. Чамярыцкі В.А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў. Мінск, 1969.

23. Шакун Л.М. Ліст да Абуховіча // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мінск, 1994. С. 312.

24. Яновіч А.І. "Прамова Івана Мялешкі" //Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мінск, 1994. С. 427-428.

## ТЭМА 7. НОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА

**Пытанні**

1. Гістарычныя ўмовы фарміравання новай беларускай літаратурнай мовы ў першай палавіне XIX ст. Моўныя асаблівасці твораў першых беларускіх пісьменнікаў.

2. Мова беларускай ананімнай літаратуры канца XVIII – пачатку XIX ст. (гутаркі, паэмы "Энеіда навыварат" і "Тарас на Парнасе").

3. Роля В.І. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча ў фарміраванні і развіцці новай беларускай літаратурнай мовы.

4. Публіцыстыка на Беларусі ў другой палавіне XIX ст. Моўна-стылістычныя асаблівасці газеты К. Каліноўскага "Мужыцкая праўда".

**Асноўныя паняцці:** *ананімны, грамадска-палітычны, гутарка, новабеларускі, публіцыстычны.*

**Заданне 1**

*Зрабіце аналіз мовы ўрыўкаў з ананімных вершаў XIX ст. “Вось цяпер які люд стаў” і “Вясна гола перапала” (гл.: Красней В.П., Шакун Л.М. Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы, с. 138; 140 адпаведна. Вызначце моўна-стылістычныя асаблівасці дадзеных вершаваных твораў:*

*1) асаблівасці графікі;*

*2) граматычна-правапісныя рысы:*

*а) напісанні, якія перадаюць жывое беларускае вымаўленне;*

*б) напісанні, абумоўленыя ўплывам тагачаснай рускай арфаграфіі;*

*в)адхіленні ад агульнапашыраных беларускіх моўных рыс, выкліканыя ўздзеяннем мясцовых гаворак ці нейкімі іншымі прычынамі;*

*3) асаблівасці лексікі з пункту гледжання яе семантыкі і стылістычнай дыферэнцыяцыі.*

*Наколькі апрацаваная мова гэтых твораў?*

**Заданне 2**

*У такім жа плане (гл. заданне 1) прааналізуйце ўрывак з паэмы “Тарас на Парнасе”, а таксама ўрывак з прадмовы да зборніка Ф. Багушэвіча “Дудка беларуская” (там жа, с. 139-140; 147 адпаведна). На падставе аналізу дадзеных мастацкіх тэкстаў (гл. таксама папярэдняе заданне) зрабіце вывад адносна агульных заканамернасцей развіцця новай беларускай літаратурнай мовы XIX ст. і ўпарадкавання правапісу тагачасных беларускіх выданняў.*

**Заданне 3**

“Мужыцкая праўда” – першая беларуская нелегальная газета-пракламацыя, якая выдавалася на працягу 1862-1863 гг. лацінскай графікай. Яе аўтарам і выдаўцом (выйшла сем нумароў газеты) быў Кастусь Каліноўскі, які падпісваўся псеўданімам Яська-гаспадар з-пад Вільні.

***Чытанне тэкстаў, напісаных лацінкаю, не патрабуе спецыяльнай вывучкі і не павінна выклікаць цяжкасцей, бо кожны са студэнтаў вывучае замежную мову (ангельскую, нямецкую, французскую ці інш.), у аснове графікі якой – лацінскае пісьмо. Тым не менш, варта нагадаць наступныя асаблівасці: c – [ц], j - [й], l –[л], l – [л’], s – [с], z – [з], ż – [ж]; w – [в], и – [у], у – [ы] і інш.; dz’ – [дз’], dż – [дж], ch – [х], cz – [ч], sz – [ш]. Значок [ ‘ ] ужываецца для абазначэння мяккасці зычнага перад наступным зычным або на канцы слова.

*Прачытайце ўрыўкі з “Мужыцкай праўды” (№ 1 і № 5). Вызначце іх графічныя, правапісна-граматычныя і лексічныя асаблівасці. Зрабіце тэматычную класіфікацыю лексікі (г. зн. укажыце ў кожным з урыўкаў важнейшыя лексіка-семантычныя пласты). Асобна выпішыце словы і*

*словазлучэнні з тэрміналагічным значэннем. Знайдзіце ва ўрыўках адзнакі публіцыстычнага стылю. Прыкметы якога яшчэ стылю трэба вылучыць?*

### Урывак з №1

Dzjeciuki!

Minulo uże toje, kali zdawało sia usim, szto mużyckaja ruka zdasce tolko da sachi, – ciepier nastau taki czas, szto my sami możem pisaci, i to pisaci taku-ju praudu sprawiedliwu jak Boh na niebi. O, zahremić nasza prauda i jak małanka pierelecić pa swieci! Niechaj paznajuć szto my możem nie tolko karmić swaim chlebom, no jeszcze i uczyc swajej mużyckoj praudy.

Pytali i pytajuć usie, szzto czuwaci na swieci, chto nam biedym mużykam dasć wolność? No praudu skazauszy mało chto chocze skazaci tak jak sumlenie każe – pa sprawiedliwości. My mużyki, braty waszyje, my wam budziem hawaryć całuju praudu tolko słuchajcie nas…

Sześć let uże minuło, jak paczali hawaryć a swabodzie mużyckoj. Hawa-ryli, tałkawali i pisali mnoho, a niczoho nie zrabili. A hety manifest szto Car z Senatom i z panami dla nas napisau, to taki durny, szto czort wiedaje da szeho jon padobny, – nijakoj u niom niema praudy, niema z jeho dla nas nijakoj karyści…

Waźmiem sia Dzieciuki za ruki i dziarżem sia razom! a kali pany schoczuć trymać z nami, tak niechaj że robiać pa swiętej sprawiedliwości: bo kali inaczej – tak czort ich pabiery! Mużyk pakul zduźaje trymaci kosu i sakieru, baranić swaho patrapić i u nikoho łaski prasić nie budzie.

Hetu Mużyckuju Praudu napisau i znou pisaci budzie Jaśko haspadar z pad Wilni.

Kasztuje hroszy 5.

### Урывак з №5

Dzjaciuki!

Mało taho szto z mużyka dzieruć na usiakije padatki astatniu kaszulu, mało taho szto nikoli nie możesz dabici sia da kuska chleba, a usio szto zarobisz addaci musisz czort wiedaje kamu i czort wiedaje na szto, mało taho, każu, szto życio naszeje horsze sabaczaho, – no skażecie maje mileńkije czy jeść pamież nami chto… kab nie apłakiwau jeszcze albo swaho syna, albo swaho brata, albo swaho muża, szto Car zabrau jeho u rekruty, da i zahnau czort wiedaje hdzie?

### Літаратура

***Асноўная:***

1. Крамко І.І., Юрэвіч А.К., Яновіч А.І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1968. Т. 2. С. 7-110.

2. Красней В.П., Шакун Л.М. Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1986. С. 129-153.

3. Шакун Л.М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2-е выд. Мн., 1984. С. 175-233.

***Дадатковая*:**

1. Булахаў М.Г. Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў XIX – XX стст. ва ўзаемаадносінах з іншымі славянскімі мовамі. Мн., 1958.
2. Жураўскі А.І., Крамко І.І. Важнейшыя адрозненні паміж новай і старой беларускай літаратурнай мовай // Жывая спадчына. Мн., 1992. С. 106-129.
3. Крамко І.І. Каліноўскі Кастусь // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 243-245.
4. Ламека У.Б. Дунін-Марцінкевіч Вікенцій Іванавіч // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 185-187.
5. Ламека У.Б. У плыні Багушэвічавай мовы // Полымя, 1984, № 7. С. 207-212.
6. Ламека У.Б., Содаль У.І. Багушэвіч Францішак Казіміравіч // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 67-69.
7. Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы / Пад рэд. А.Я. Баханькова. Мн., 1994. С. 80-87.
8. Содаль У.І. З Багушэвічавай граматыкі // Дзень паэзіі – 90. Мн., 1990. С. 215-216.
9. Шакун Л.М. Аб мове паэм “Энеіда навыварат” і “Тарас на Парнасе” // Шакун Л.М. Карані роднай мовы. Мн., 2001. С. 136-146.

## ТЭМА 8. БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА Ў ПАЧАТКУ XX ст.

**Пытанні**

1. Моўная сітуацыя на Беларусі ў пачатку XX ст. Беларускае кнігадрукаванне, роля друкаваных органаў у станаўленні літаратурнай нормы.
2. Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў пачатку XX ст.:

а) выпрацоўка граматычна-правапісных нормаў;

б) развіццё слоўнікавага саставу;

в) удасканаленне сродкаў і прыёмаў літаратурнага выражэння.

3. Браніслаў Тарашкевіч. “Беларуская граматыка для школ” (1918) і яе значэнне ў распрацоўцы граматычна-правапісных нормаў беларускай літаратурнай мовы.

**Асноўныя паняцці:** *граматычна-правапісная норма, кнігадрукаванне, марфалагічны прынцып, “нашаніўскі” перыяд, публіцыстычны, тэрміналагічны, фанетычны прынцып.*

**Заданне 1**

З 1906 г. пачынаецца гісторыя беларускай легальнай прэсы. Першымі беларускімі легальнымі газетамі былі газеты “Наша доля” і “Наша ніва”. Яны былі створаны для таго, каб заснаваць орган, вакол якога можна было б згуртаваць сілы для

культурнага і нацыянальнага адраджэння беларусаў. “Наша доля” выдавалася ў Вільні з 1 верасня па 1 снежня 1906 г. Выйшла яе 5 нумароў, якія былі канфіскаваны; на 6-ым нумары газету закрылі. Штотыднёвая легальная газета “Наша ніва” выдавалася ў Вільні з лістапада 1906 г. па жнівень 1915 г. Да 1913 г. газета друкавалася кірылічным і лацінскім шрыфтамі, пазней – толькі кірылічным. У “Нашай ніве” змяшчаліся разнастайныя па жанры і змесце матэрыялы: грамадска-палітычныя навіны, навукова-папулярныя артыкулы, сельскагаспадарчыя парады, адказы на пытанні чытачоў і інш. На яе старонках публікаваліся таксама мастацкія творы буйнейшых беларускіх пісьменнікаў таго часу. Газета адыграла значную ролю ў станаўленні і развіцці публіцыстычнага і навуковага стыляў беларускай літаратурнай мовы.

*Зрабіце моўна-стылістычны аналіз тэкстаў, узятых з публікацый у газетах “Наша доля” і “Наша ніва”, зборніку Я. Купалы “Жалейка”. Вызначце правапісна-граматычныя асаблівасці тагачасных выданняў. У якой меры яны адпавядаюць сучасным арфаграфічным і граматычным нормам? Якія рысы беларускай мовы адлюстраваны ў іх непаслядоўна? Чым абумоўлены разнабой у правапісе і граматыцы?*

*Вызначце лексічныя асаблівасці кожнага з урыўкаў (дайце семантычную характарыстыку лексікі, пакажыце сэнсавую дакладнасць словаўжывання, стылістычнае выкарыстанне лексічных адзінак, іх замацаванне ў слоўніку сучаснай беларускай літаратурнай мовы). На падставе аналізу тэкстаў зрабіце вывад, у якіх стылістычных разнавіднасцях функцыянавала беларуская літаратурная мова на пачатку XX ст.*

## I. **СТАРОЕ ЛЯКАРСТВА**

Правицельство нашэ на усе хваробы мае адно только лекарство. Лекарство гэта – цыркуляр. Захварэу народ на свабоду, правицельство – тыц цыркуляр, захварэу народ на жаданне зямли – тыц други цыркуляр; захварэла жменя людзей на обиранне манаполек, почт – зноу цыркуляр. Стольки ужо гэтаго лекарства прыняу народ, а памагло яно бядзе так як нябошчыку кадзидла. Здаецца доси былоб гэтых цыркуляроу, здаецца час было бы зразумець, што каб вылячыць народ з яго нядоли адных цыркуляроу мала.

А правицельство чы ня ведае, чы ня хочэ ведаць аб гэтым.

Новая хвароба завелася: мужыки не плацяць падаткоу.

И вось правицельство и на гэту хваробу прыписывае сваё старое лекарство – цыркуляр. У цыркуляры гэтым министр скарбу Коковцэв и председацель министроу Сталыпин прыказываюць губэрнаторам, каб яны усими, хаця бы найстражэйшыми законными спосабами пастаралися прымусиць мужыкоу плациць падатки. Цяжкая на долю губэрнатороу выпала работа: Як возмеш што небудзь у таго, у каго нима ничога? Як збираць падатки, кали мужык так згалеу, што не то на падатки, на хлеб грошэй ня мае? Што дзень газэты прыносяць усё новые весьци з усих канцоу Расеи аб цяжкай мужыцкай нядоли…

(«Наша доля», 1906, № 3)

## II. ШТО ТАКОЕ ПЯРУН І ЯК АД ЯГО БАРАНІЦЦА

Калі будзем цёрці шкло сукном, то яно можэ прыцягнуць да сябе маленечкіе і надта лёгкіе кавалачкі паперы, як да іх прыткнецца. Вось, гэта сіла, што зьяўляецца ў шкле і можэ прыцягіваць, называецца *электрычэствам.*

Электрычэства можэ перэхадзіць ад аднэй рэчы да другой. Жалеза, сталь лёгка прыймаюць электрычэства і разводзяць па сябе, – затым і кажуць, што жалеза – *правадні̇к* электрычэства. Ізноў такіе рэчы, як шкло, вата, сукно, дрэнна перэдаюць ці праводзяць электрычэства і называюцца благімі праваднікамі або *ізолятарамі.* Каб утрымаць электрычэства, напрыклад, у жалезным дроце, трэба гэты дрот абярнуць сукном, ці лепей едвабам, – значыць, *ізоліроваць.*

Электрычэства шмат знаходзіцца ў паветры, але яго можна дабываць і рознымі машынамі. – Яно лёгка пераходзіць у зямлю. Калі дрот жалезны *наэлектрызуем* (пусьцім у яго электрычэства) і ўваткнем у зямлю, дык усё электрычэства перойдзе з яго да зямлі. – А як у адным мейсцы, – напрыклад, у машыне, – зьбярэцца шмат электрычэства, і мы туды падсунем блізка кавалак жалеза, ці чаго, то электрычэства можэ перэскачыць на жалеза цераз паветрэ. Пры гэтым мы убачым бліскучую іскру і чуем невялікі трэск.

Вось *пярун* і ёсць так сама *электрычэская іскра*, толькі надта вялікая і аграмаднай сілы; яна перэскаківае на зямлю ад хмар, дзе с паветра зьбіраецца вельмі шмат электрычэства.

(“Наша ніва”, 1909, № 17)

## III. ПЕСЬНЯ І НАРОД

Якая птушка – такя і песьня, кажуць людзі. Гэта разумная прыказка а птушчынай песьні мае ешчэ большае значэньне для песьні людзкой, бо песьня людзкая адбівае ў сабе душу чалавека, яго боль і горэ, яго патрэбы, жаданьня і самае жыцьцё. Як па твары пазнаюць чалавека, так па песьні асабліве народнай, пазнаецца цэлая нацыя, яе характэр і душа. Разам з гэтым песьня многа і прынасіла і прыносіць карысьці для народу, яна бытцам зменшае людзкіе нешчасьця, пацешае ў нядолі, а калі трэба, дык і весяліць. Усім ведама, што песьня, гэта бытцам неякая вялікая таемная сіла вельмі памагала будзіць народ, узахвочываць яго да працы, падымаць с цемнаты, клікаць да сьвету-навукі, да абароны свайго краю, на добрые, важные справы. Дзеля таго у народаў с шырокай прасьветай песьня даўным-даўно заваевала сабе пачэснае мейсцэ, – яе справедліва шануюць, як вялікі ўсенародны, скарб, бо яна для душы кожнага чалавека – ці беднага, ці багатаго – ўсё роўна так патрэбна, як хлеб і вада для здароўя цела. І нам, беларусом, каб не замерці ў сваім духоўным развіцьці, каб вальнейшым часам павесяліцца, набраць сілы да новаго жыцьця і працы каля народных

справоў, – трэба тую песьню і музыку, што зрадзілася на народнай ніві, памеж свайго народу, сколькі ёсць сіл трымацца, – не забываць, а цэніць яе так, як вучаць і даюць нам прыклад усе разумнейшые і практычные людзі.

(“Наша ніва”, 1909, № 30)

**ІУ. Я. КУПАЛА. ЯК ПАЙДУ Я ПАЙДУ**

Як пайду я, пайду па загонах
Па мазольным аратых сляду,
Па лугох и па борах зялйоных,
И па сйолах убогих пайду.
На жалейцэ сваей, на гудливай
Там я песни пачну распеваць.
Прыслухайся, шчасливў, нешчаслівы,
Думки лепшы хачу вызываць.
Я для ниваў пабудку зайграю,
Каб радзила спарней дабрыну,
Каб – баронку стаўляй к жытцу с краю –
И ўтрымала жытцо барану.
Я грудзями прыльну к сенажаццэ,
Малиць стану даваць больш сенца,
Ў кветках вечна каб ей красавацца
Кветкиб шчасцям цвяли для касца.
Кнейи гукну, каб гордай, скупою
Не была, дроў давала людзям.
Памагла ваеваць йим с зимою;
Шумоў бору падслухаю сам.
А прыду к свайму ў війосачку люду,
Пачну с хатки да хатки хадзиць,
Жалець сэрца, душы там ня буду,
Буду пець, буду йграць и будзиць.

(«Жалейка», с. 70-71. Верш датуецца 1905-1907 гг.)

**Заданне 2**

*Прачытайце (на выбар) любыя два параграфы ў «Беларускай граматыцы» Б. Тарашкевіча і адпаведныя яму па змесце параграфы са школьнага падручніка па беларускай мове. Якія разыходжанні ў падачы матэрыялу Вы заўважылі? Якія правапісныя, граматычныя і лексічныя змены адбыліся ў сучаснай беларускай мове? Ці ёсць змены ў мовазнаўчай тэрміналогіі? Ахарактарызуйце навуковы ўзровень выкладу тэарэтычнага матэрыялу і вартасць практычных заданняў у «Беларускай граматыцы» Б. Тарашкевіча.*

### Літаратура

***Асноўная:***

1. Браніслаў Тарашкевіч. Беларуская граматыка для школ. – Факсім. выд. Мн., 1991.
2. Крамко І.І., Юрэвіч А.К., Яновіч А.І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1968. Т. 2. С. 110-154.
3. Красней В.П., Шакун Л.М. Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1986. С. 153-171.
4. Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы / Пад рэд. А.Я. Баханькова. Мн., 1994. С. 93-99.
5. Шакун Л.М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2-е выд. Мн., 1984. С. 233-249.

***Дадатковая:***

1. Германовіч І.К. Тарашкевіч Браніслаў Адамавіч // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 558-559.
2. Ліс А. Браніслаў Тарашкевіч. Мн., 1966.
3. Міхневіч А.Я. Першая беларуская граматыка для школ // Жывая спадчына. Мн., 1992. С. 214-223.
4. Развіццё лексічнай сістэмы беларускай мовы ў XIX – пачатку XX ст. // Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970. С. 228-265.
5. Усціновіч Г.К. "Наша ніва" // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 384-386.
6. Шакун Л.М. "Беларуская граматыка для школ" Б. Тарашкевіча // Шакун Л.М. Гісторыя беларускага мовазнаўства. Мн., 1995. С. 125-133.
7. Яновіч А. Б.А.Тарашкевіч – мовавед (Да 90-годдзя з дня нараджэння) // Беларуская лінгвістыка, 1982. Вып. 21. С. 11-17.
8. Яновіч А.І. Графіка-арфаграфічныя і граматычныя асаблівасці беларускіх выданняў пачатку XX стагоддзя // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 163-165.

## ТЭМА 9. АСАБЛІВАСЦІ ФУНКЦЫЯНАВАННЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ Ў 20-30-Я ГАДЫ XX ст.

**Пытанні**

1. Беларусізацыя як адзін з фактараў вырашэння нацыянальнага пытання ў БССР у 20-30-я гады XX ст. Моўна-нацыянальная палітыка гэтага часу.
2. Развіццё лексікі і фразеалогіі беларускай літаратурнай мовы ў 20-30-я гады XX ст. Выпрацоўка беларускай нацыянальнай тэрміналогіі.
3. Выпрацоўка і замацаванне графічных, граматычна-правапісных і арфаэпічных нормаў беларускай літаратурнай мовы ў 20-30-я гады XX ст. Рэформа беларускага правапісу 1933 г.

4. Барацьба за чысціню і выразнасць беларускай літаратурнай мовы ў 20-30-я гады XX ст. Перагібы ў барацьбе з “буржуазным нацыяналізмам”.

5. Роля Я. Купалы і Я. Коласа ў развіцці беларускай літаратурнай мовы.

**Асноўныя паняцці:** *беларусізацыя, Беларуская навукова-тэрміналагічная камісія, “буржуазна-нацыяналістычны”, марфалагічны прынцып, пурыстычны, рэформа правапісу, тэрміналогія, фанетычны прынцып.*

**Заданне**

*Прачытайце асноўныя палажэнні пастановы СНК БССР ад 26 жніўня 1933 г. “Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу (гл.: Красней В.П., Шакун Л.М. Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы, с. 203-205). Якія змены былі ўнесены ў беларускі правапіс (параўн. з "Беларускай граматыкай” Б. Тарашкевіча)? Ці ўсе арфаграфічныя правілы дакладна сфармуляваны? Наколькі мэтазгодным, на Вашу думку, з’яўляецца “скасаванне” ь (мяккага знака) на пісьме?*

## Літаратура

***Асноўная*:**

1. Крамко І.І., Юрэвіч А.К., Яновіч А.І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1968. Т. 2. С. 271-332.

2. Красней В.П., Шакун Л.М. Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1986. С. 203-205.

3. Шакун Л.М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2-е выд. Мн., 1984. С. 259-313.

***Дадатковая:***

1. Баханькоў А.Я. Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд. Мн., 1982.

2. Бірыла М.В. Роля Якуба Коласа ў развіцці беларускай літаратурнай мовы // Жывая спадчына. Мн., 1992. С. 178-189.

3. Германовіч І.К. Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 19-21.

4. Запрудский С. Человек из прошлого, или Почему трудно стирать «белые пятна» в истории белорусского языкознания // Неман. 1991, № 6. С. 180-190.

5. Колас Я. Развіваць і ўзбагачаць літаратурную мову // Колас Я. Зб. твораў: У 14-ці т. – Мінск, 1976. Т. 12. – С. 132-136.

6. Колас Я. Шануйце і любіце сваю родную мову // Колас Я. Зб. твораў: У 14-ці т. Мн., 1976. Т. 12. С. 25-26.

7. Конан У.М. Беларусізацыя // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 78-80.

8. Красней В.П. Пошукі прынцыпаў і шляхоў выпрацоўкі беларускай нацыянальнай тэрміналогіі ў 20-я гады // Бел. мова: Міжведамасны зборнік. Мн., 1985. Вып. 13. С. 31-41.

9. Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы / Пад рэд. А.Я. Баханькова. Мн., 1994. С. 99-116.

10. Лыч Л. Рэформа беларускага правапісу 1933 года: ідэалагічны аспект. Мн., 1993.

11. Падлужны А. Работа над памылкамі 1933-га // Беларуская мова і літаратура ў школе, 1991, № 3. С. 6; № 4. С. 6-9.

12. Рэформа беларускага правапісу 1933 года // Беларуская мова: Энцыклапедыя. – Мінск, 1994. – С. 464-467.

13. Шакун Л.М. Рэформа правапісу і граматыкі 1933 года // Шакун Л.М. Гісторыя беларускага мовазнаўства. Мн., 1995. С. 133-149.

## ТЭМА 10. БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА НА СУЧАСНЫМ ЭТАПЕ ЯЕ РАЗВІЦЦЯ

**Пытанні**

1. Пытанне рэформы правапісу на сучасным этапе развіцця беларускай літаратурнай мовы. Рэспубліканская навуковая канферэнцыя “Праблемы беларускага правапісу” (лістапад 1992 г.).
2. Праблемы і перспектывы нацыянальнага і культурнага адраджэння на сучасным этапе. Дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Закон “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь” (1990).
3. Перспектывы і тэндэнцыі развіцця сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў.

**Асноўныя паняцці:** *беларусізацыя, білінгвізм, дэнацыяналізацыя, моўная палітыка, моўная сітуацыя, нацыянальна-культурны, нацыянальнае адраджэнне, русіфікацыя, рэформа правапісу, фанетызацыя пісьма.*

**Заданне 1**

*Прааналізуйце мову 2-3 публікацый, змешчаных у беларускамоўных выданнях за 2001-2002 гг. (гл. “Звязда”, “Наша слова”, “Наша ніва”, “Голас Радзімы”, “Культура”, “Віцебскі рабочы”, “Настаўніцкая газета” і інш.). Ці сустракаюцца ў іх адхіленні ад агульнапрынятых арфаграфічных, граматычных і лексічных нормаў ? Чым, на Вашу думку, гэта выклікана?*

**Заданне 2**

*Напішыце рэцэнзію (2-3 старонкі) на любы артыкул або публікацыю, якія былі змешчаны ў друку за апошнія два гады, па*

*актуальных праблемах і пытаннях гісторыі беларускай літаратурнай мовы, у тым ліку і пытаннях рэформы сучаснага правапісу. Укажыце, дзе яны змешчаны. Гл. выданні: “Беларуская лінгвістыка”, “Веснік БДУ”. Сер. 4, “Роднае слова” і інш.*

**Літаратура**

1. Гіруцкі А.А. Да характарыстыкі моўнай сітуацыі ў БССР // Беларуская лінгвістыка, 1980. Вып. 18. С. 14-21.
2. Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб мовах у Беларускай ССР // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 647-653.
3. Конан У. Святло для людзей: Родная мова і культура ў эпоху перабудовы. Мн., 1989.
4. Лепешаў І.Я. Сучасная беларуская літаратурная мова: спрэчныя пытанні. Гродна, 2002.
5. Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў: Зб. артыкулаў. Мн., 1981.
6. Сямешка Л. Навошта блытаць чалавека з пашпартам // Настаўніцкая газета, 1989. 17 чэрвеня. С. 2.
7. Трусаў А. У Беларусі дзяржаўнай павінна быць адна мова – мова тытульнай нацыі // Народная воля, 2001. 8 лютага. С. 3.
8. Цумараў Я.А. Таварыства беларускай мовы (ТБМ) імя Францішка Скарыны // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мінск, 1994. С. 552-553.
9. Цыхун Г. Дэфармацыя ў сістэме беларускай літаратурнай мовы ў гады таталітарызму // Наша слова, 1997. 27 студзеня. № 4. С. 6.